# Голас Радзімы

ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА
БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»

№ 52 (2246) 26 снежня 1991 г. Выдаецца з 1955 г.

Цана 8 кап.

## «ГОЛАС РАДЗІМЫ»

віншуе ўсіх сваіх чытачоў і прыхільнікаў з надыходзячым Новым, 1992-м годам!

Суайчыннікам на Радзіме жадаем вытрываласці і цярплівасці ў пераадоленні ўсіх нягод, што нам нясе гэты сумны і непрадракальны час.

Суайчыннікам за межамі Бацькаўшчыны жадаем дабрабыту і ўтульнасці пад кожным дахам, хай у вашых сэрцах жыве спагада да сваёй любай Беларусі і гатоўнасць дапамагчы ёй у гаротным паслячарнобыльскім становішчы.

Усім зычым радасных і вясёлых Каляд і шчаслівага Новага года!

Спадзяёмся на больш цеснае супрацоўніцтва чытачоў са сваёй газетай.

РЭДКАЛЕГІЯ.



18 снежня 1991 года сталіцу Рэспублікі Беларусь Мінск наведаў дзяржаўны сакратар ЗША Джэймс Бейкер. Яго візіт працягваўся ўсяго некалькі гадзін, а пасля сустрэчы са Старшынёй Вярхоўнага Савета Станіславам Шушкевічам і іншымі афіцыйнымі асобамі Дж. Бейкер сказаў журналістам усяго некалькі слоў: ён задаволены вынікамі сустрэчы, якую лічыць вельмі карыснай.

Надта задаволены і Станіслаў Шушкевіч ды Вячаслаў Кебіч, галоўным чынам, тым, што кантакты былі непасрэднымі, а не праз Маскву. Без пасрэдніка для двух бакоў многае праяснілася. Напрыклад, тое, шт[illegible] да Беларусі не дайшлі велізарныя с[illegible]і, выдзеленыя ЗША на гуманітарную д[illegible]могу.

Дасягнута дамоўленасць аб абмене консульствамі Рэспублікі Беларусь і ЗША.

НА ЗДЫМКУ: у час сустрэчы Дж. БЕЙКЕРА і С. ШУШКЕВІЧА.




Па ўсім відаць, што застануцца сёлета юныя мінчане без святочных падарункаў і цацак: і гэтыя тавары адсутнічаюць у продажы. А тое мізэрнае, што вось так прадаецца з рук, перадвавагодні попыт задаволіць ніяк не можа.

Фота В. СТАВЕРА.

Рыгор ВЯЧЭРСКІ: У ПАЛІТЫКУ ПАВІННЫ ІСЦІ ЛЮДЗІ З ЧЫСТЫМ СУМЛЕННЕМ

# ХАЙ НЕ ПАКІНЕ ВАС НАДЗЕЯ

**— Рыгор Арсеньевіч, ведаючы вас даўно як чалавека спагадлівага сэрца, як спецыяліста з высокай рэпутацыяй, якому Богам дадзены талент лекара, я быў нямала здзіўлены, што вы далі згоду балаціравацца кандыдатам у народныя дэпутаты Вярхоўнага Савета тады яшчэ Беларускай ССР. Цешуся, што вы перамаглі. Але дагэтуль не разумею, навошта вам было, даруйце, лезці ў палітыку — гэтую «брудную справу», як кажуць нашы замежныя суайчыннікі. Дык усё ж як вы рашыліся на гэты крок!**

— Гэта сталася не з маёй волі. Не меў я ані такой думкі, ані жадання. Калі ішла кампанія па выбарах народных дэпутатаў СССР, мае землякі, калгаснікі, хацелі вылучыць мяне кандыдатам. Я нават не ведаў пра гэта. Але тады з такой ініцыятывай знізу ніхто не лічыўся. У кіруючых крэслах ведалі лепш, хто павінен быць дэпутатам. Прывезлі генерала Кастэнку, камандуючага Беларускай ваеннай акругай, паказалі выбаршчыкам, сказалі, за каго яны маюць галасаваць, і справа была зроблена.

Але, паўтараю, палітыка мяне тады не цікавіла, і тыя выбары мяне не турбавалі. Ды праз год пачаліся выбары ў наш Вярхоўны Савет, рэспубліканскі. Мае землякі, зацяўшыся ад фіяска на тых выбарах, зноў вылучылі мяне кандыдатам у дэпутаты. Наперакор раённым уладам, якія павінны былі «праціснуць» кандыдатуру другога сакратара Мінскага абкома партыі Бычака.

Я вось так, як і сёння, чытаю слухачам лекцыю, выходжу ў перапынку на калідор, а мяне чакае група землякоў. Пяцёра чалавек прыехала: «Арсеньевіч, хочаце — лайце нас, мы вас вылучылі кандыдатам». Патрабуюць маёй згоды і кажуць: «Не пойдзем з вашага кабінета, пакуль не засведчыце сваю згоду на паперы».

Гэта для мяне было страшэнна нечакана. Я не збіраўся лезці ў вялікую палітыку, тым больш — у наш такі складаны і смутны час. Але мяне пераканалі, што гэта трэба, для людзей трэба. І пачалася перадвыбарчая барацьба. Вось калі я зразумеў, якая брудная справа — палітыка. Тады яшчэ мелі моц райкомы ды гаркомы партыі. Як толькі ў Барысаве стала вядома, што я збіраюся балаціравацца, запрацавала кіруемая партапаратам машына працідзеяння. Бычак здымае сваю кандыдатуру, а замест яго супраць мяне выстаўляюць аж чацвярых. Са мною б'юцца самым бессаромным чынам.

Мне некалькі разоў зрывалі сустрэчы з выбаршчыкамі, да таго ж — у вялікіх калектывах. У дзень, калі я павінен быў выступаць у Жыцькаве, той вёсцы, дзе вучыўся ў школе, мяне на вакзале спаткалі двое незнаёмых бамбізаў і хацелі, відаць, пакалечыць, разбілі нагу. Сустрэча, вядома, не адбылася. Следам за мной па выбарчай акрузе ездзілі райкомаўскія работнікі і распавядалі пра мяне такія, напрыклад, «весткі»: гэты прафесар —

(Заканчэнне на 3-й стар.).

# ХАЙ НЕ ПАКІНЕ ВАС НАДЗЕЯ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

**бяздушны чалавек, у яго на калідорах днямі і начамі ледзь не покатам спяць на ватоўках людзі, якія просяць паратунку, а Вячорскі, пераступаючы праз хворых, бы праз трупы, не заўважаючы нікога, з горда ўзнятай галавой крочыць у свой кабінет. Распаўсюджвалі плёткі, быццам я з прывілеяванай касты: карыстаюся дзяржаўнай дачай і аўтамабілем, маю ўсё з дзяржаўнай кармушкі. А ў мяне, як і ў многіх прафесараў, толькі садовы ўчастак — чатыры соткі, і я на ім працую па выхадных, каб нешта мець на зіму для сябе і для ўнукаў. Ды наогул — у нас ні адзін прафесар не мае ні дзяржаўнай дачы, ні машыны.**

**Вось тут мяне і «заела», абурыла гэткае нахабнае і бессаромнае праціздзеянне партыйнай выбарчай машыны...**

Цяжка было Рыгору Вячэрскаму — шэраговаму КПСС, сумленнаму чалавеку — пагадзіцца з тым, што супраць яго пачалася кампанія ілжы і правакацый, арганізаваная яго ж аднадумцамі па партыі, у якой ён адбыў сорак гадоў. Ён стаў камуністам не дзеля кар'еры, а з пераканання. У часы хрушчоўскай адлігі, калі на XX з'ездзе КПСС былі выкрыты ўсе пачварныя з'явы, народжаныя таталітарызмам, Вячэрскі падаў заяву аб прыёме ў партыю. Ён верыў, што партыя цяпер, калі няма Сталіна і настаці новыя часы, можа стаць розумам і сумленнем народа.

Скончыўшы ваенна-медыцынскую акадэмію, Рыгор Вячэрскі добраахвотнікам паехаў працаваць на Паўночны флот. Тады гэта было самае адказнае і самае складанае месца. За плячыма ў гэтага чалавека вялікая, доўгая дарога — ад урача да доктара медыцынскіх навук, прафесара, загадчыка кафедры функцыянальнай дыягностыкі Беларускага інстытута ўдасканалення ўрачоў. Як ён сам любіць гаварыць, не быў яго шлях зорным. Цяпер да ўсіх турбот яшчэ гэта — стаў палітыкам.

Але заўсёды, якія б клопаты яго ні абступалі, як бы ні быў заняты, у выхадныя разам з братам — да бацькоў, у сваю Садоўшчыну, што пад Барысавам. Бацька памёр ужо колькі гадоў таму, а маці яшчэ жыве і нікуды не хоча рушыць са сваёй хаты. А значыць апека над ёй ляжыць на Рыгоры Вячэрскім. І як толькі з'явіцца ў вёсцы, тут яго і пільнуюць землякі, ды не з адной Садоўшчыны. Можа лекі якія параіць і дастане, можа паслухае, можа возьме да сябе ў бальніцу. І глыбока паважаны і шанаваны імі Арсеньевіч нікому яшчэ не адмовіў.

Ці ж дзіва, што перамог Вячэрскі ў сваёй акрузе, а яна немалая — больш 30 тысяч выбаршчыкаў. Перамог у першым туры галасавання, пакінуўшы далёка за сабой сваіх праціўнікаў.

Ёсць у Рыгора Вячэрскага адна рыса, якая і робіць яго тым, кім ён ёсць. Прынцыпы простыя: не займай месца, калі з цябе ніякай карысці людзям. А калі ты ўжо заняў нейкую прыступку на грамадскай лесвіцы, то, будзь ласкавы, рупіся, каб з цябе была карысць грамадству.

На першай жа сесіі прафесар здзівіў дэпутатаў тым, што выставіў сваю кандыдатуру ў альтэрнатыве на пасаду Старшыні Вярхоўнага Савета БССР. І выступіў з абгрунтаванай праграмай. Зарукай яе выканання Вячэрскі назваў адказнасць і сумленнасць. І гэта выклікала рогат партыйна - апаратнай большасці парламента, якая вызвала зусім іншыя крытэрыі ў палітыцы. Аднак жыццё пацвердзіла, што ідэі і думкі праграмы Вячэрскага былі слушнымі.

**— Праблема Саюза і праблема суверэнітэту — ці не асноўныя палажэнні вашай праграмы! Час не змяніў пагляда́ў!**

— Час пацвердзіў тое, што тады здавалася амаль не замахам на непарушныя ісціны. Ужо тады, два-тры гады назад, многія бачылі, што Саюз фактычна развальўся, што склеіць яго немагчыма, — і толькі тае бяды. Каб шэсць гадоў назад, калі толькі пачалася перабудова, былі праведзены сур'ёзныя палітычныя рэформы і да іх далучыліся б глыбокія і прадуманыя эканамічныя, то мы не апынуліся б сёння ў гэтым пекле. На жаль, наш «любімы і мудры» партапарат думаў аднабока і неглыбока. Вось мы і маем сёння тое, што і павінны былі мець у выніку такой бяздарнай, антынароднай палітыкі.

У сваёй праграме я сцвярджаў, што саюз дзяржаў на месцы былога СССР магчымы ў трох накірунках: эканамічным, палітычным і ваенным. Палітычны — выключна па добрай волі. Любая суверэнная дзяржава мае права заключыць адзін з тых трох саюзаў. Для Беларусі, бадай, было б дастаткова эканамічнага... Цяперашняе Белавежскае пагадненне не пярэчыць маёй канцэпцыі — рэспубліка не губляе сваю самастойнасць і с... ўрэшце незалежнай.

**— Але возьмем такі аспект, Рыгор Арсеньевіч: што значыць незалежнасць без міжнароднага прызнання! А Рэспубліку Беларусь пакуль прызналі толькі Польшча ды Швецыя.**

— Наш суверэнітэт будзе пяровым, калі нас не прызнаюць вядучыя краіны. Спадзяюся, што пасля апошніх падзей у Мінску нас будуць лепш ведаць у свеце. А то ж амаль зусім не ведаюць, дзе тая Беларусь. Нядаўна я быў у Італіі з групай прафесараў. Дык сам пераканаўся: не ведаюць. Дзе Мінск, казалі мне італьянскія субяседнікі, яшчэ ведаем: гэта заходняя ўскраіна СССР, а што такое Беларусь — не чулі нават.

Я тады і кажу нашаму міністру замежных спраў: як жа гэта так?! Чаму мы не працуем? Чаму ні ў адным пасольстве за мяжой няма беларуса, а ўсё — грузіны, армяне? Чаму ў гандлёвых прадстаўніцтвах, у консульствах адны масквічы? Хто ж будзе нашу рэспубліку прадстаўляць? Нават чарнобыльскую трагедыю за мяжой звязваюць з Украінай, а не з Беларуссю, якая найбольш пацярпела. Значыць, украінцы лепш працуюць, чым мы. І наогул, украінцы нам паказалі, якім шляхам маем ісці. Іншай дарогі ў Беларусі няма: нас праглынуць, і мы перастанем існаваць як дзяржава. Шмат гадоў рабілася так, каб знішчыць беларускую культуру, усё беларускае. Вы ж ведаеце, колькі людзей у нас гаворыць на роднай мове. З Беларусі гадамі выцягвалі і выцягваюць усё, як у аэрадынамічную трубу. Вылятае ўся наша праца, мы над бездонню сацыяльнага спустошання.

Прафесар Вячэрскі — перакананы прыхільнік незалежнасці. Нават тады, калі многіх палохала сама думка аб палітычнай самастойнасці Беларусі («Мы ж не выпылвем без палітычнага саюза, загінем, на што будзем жыць?!»), ён смела даводзіў: вельмі цяжка нам будзе, але выбрынем. Мы маем не так ужо і мала, толькі не гаспадары на сваёй зямлі, у сваім доме. У Беларусі адно з буйнейшых радовішчаў калійных солей, запасаў якіх хопіць на 50 год. Ёсць нафта, якой хопіць, прынамсі, на 10 гадоў, як сцвярджаюць геолагі. Прычым нафта высокай якасці, высокаактанавая. Маем мноства сланцавых парод. У рэшце рэшт маем магутную і развітую прамысловасць — электроніка, тры аўтамабільныя гіганты, трактара- і станкабудаванне. А што мы атрымліваем? Беларусь пахвалялася, што вырабляе ў год 100 тысяч трактароў, але з іх 95 тысяч вывозілася за межы рэспублікі. Калі рэшту раскінуць на ўсе калгасы, саўгасы і тыя прадпрыемствы, якім непазбежна патрэбен у рабоце трактар, то кожны з калгасаў выбарчай акругі Вячэрскага атрымае толькі па 0,3 трактара ў год. Дэпутату Рыгору Вячэрскаму гэта не дае спакою. Вось такая палітыка, калі наш народ рабавалі і рабуюць, спасылаючыся ўвесь час на «інтэрнацыянальны абавязак», «дружбу народаў», — і ёсць сапраўды «брудная палітыка». З нас усё выцягваюць, жорстка эксплуатуючы народ, да таго ж мы атрымліваем жабрацкую плату за сваю працу.

Каб кардынальна змяніць справу, лічыць Р. Вячэрскі, у палітыку павінны прыйсці людзі з чыстым сумленнем. Наш урад інертны ў сваіх дзеяннях, а Вярхоўны Савет, які мог бы прымусіць працаваць урад больш эфектыўна, не здольны нічога вырашыць. Пакуль у ім большасць складаюць прадстаўнікі былога партапарату, Вярхоўны Савет застанецца кансерватыўным. Тут не трэба строіць ілюзій. Тым не менш Рыгор Вячэрскі супраць яго роспуску і новых выбараў: у данай сітуацыі гэта можа прывесці да таго, што выберам на сваю галаву больш агрэсіўны парламент.

Разважанні прафесара Вячэрскага настолькі ўразілі мяне сваёй грунтоўнасцю, падрыхтаванасцю ў новай для яго сферы, што ў мяне міжволі вырвалася пытанне:

**— Рыгор Арсеньевіч, ці не наважыліся вы стаць прафесійным палітыкам!**

— Цяпер фактычна па-за палітыкай ніхто не жыве, нават дзеці. Мне прапаноўвалі пасады старшыні камісій у Вярхоўным Савеце — спачатку па ахове здароўя, потым па экалогіі. Тады я адмовіўся: мне было шкада пакінуць работу тут, у інстытуце, пакінуць тое, чаму прысвяціў жыццё. Але настае такі час, калі ў Вярхоўным Савеце павінна быць больш людзей, дэмакратычна настроеных. Да таго ж у мяне ўсяляе надзею абяцанне Станіслава Шушкевіча рэарганізаваць Прэзідыум Вярхоўнага Савета, давесці яго колькасць да 11 асоб і ўключыць туды Зянона Пазняка. Там трэба мець больш добрасумленных людзей, якія хочуць працаваць, а не толькі займаць пасады, людзей, якія не ставяць сваёй мэтай кар'еру. Вось у такіх варунках, калі мне прапануюць перайсці на работу ў Вярхоўны Савет, занявіца пэўнай справай прафесійна, я зраблю гэта без ваганняў.

**— Ваша прозвішча, калі прэса паведамляе спісы паіменнага галасавання, амаль што заўсёды сярод дэпутатаў апазіцыі. Вы належыце да апазіцыі ў Вярхоўным Савеце! Вы падзяляеце яе погляды і мэты!**

— Да апазіцыі я не належу, але многія іх погляды падзяляю, таму што яны рэальныя і дэмакратычныя. Я згодны з апазіцыяй у такіх пытаннях, як рэарганізацыя ўладных структур, суверэнітэт, абарона інтарэсаў Беларусі, умацаванне яе эканамічных сувязей з замежнымі краінамі.

А наогул у нас была свая група ў Вярхоўным Савеце — спачатку «Камуністы за дэмакратычныя рэформы», пасля правалу путчу і роспуску КПСС — «Народныя дэпутаты за дэмакратычныя рэформы ў Беларусі». Мы падзяляем усе погляды іншых партый і груп, калі яны грунтуюцца на прыхільнасці сапраўды дэмакратычным рэформам, дамагаюцца лепшага жыцця свайму народу ў праўавой дзяржаве.

**— Вам цяжка было расстацца з камуністычнымі ідэямі ці, можа правільней, ілюзіямі!**

— Сапраўды, ілюзій было многа... Мне было страшэнна крыўдна, што нас столькі год дурылі. На нашых гарбах, на нашай працы, на бессаромнай эксплуатацыі ўсяго народа будаваўся дабрабыт, той камунізм для невялікай жменькі людзей, кіраўнікоў розных рангаў — ад райкомаўскага да ЦК. Манаполія такой антынароднай структуры, як партыя камуністаў, не магла больш існаваць. І яна развалілася. Няхай існуюць многія партыі, хай яны будуць парламенцкага тыпу. Я толькі супраць усяляких экстрэмісцкіх партый, якія ставяць, скажам, крайне нацыяналістычныя мэты, рэстаўрацыю таталітарызму ў якім-небудзь новым варыянце. Я за стварэнне такога грамадства, у якім будуць панаваць закон і права.

**— Да якой партыі вы зараз аднеслі б сябе! Якая вам бліжэй па духу!**

— Зараз я, ...як і ўся наша шматмільённая ...рмія камуністаў, беспарты... Але больш за ўсё мне імпануе светапогляд сацыял-дэмакратыі часоў Пляханава.

**— Рыгор Арсеньевіч, якія думкі будзіц... вас пражыты год! Якія спа... анні звязваеце з новым годам! Што пераважае — аптымізм ці песімізм!**

— Шкада, што нам не ўдалося зрабіць нічога, каб палепшыць ахову здароўя. Гэта мой прафесійны боль і дэпутацкі сорам — мы аказаліся бездапаможнымі. Медыцына і ў лепшыя гады была ў нас жабрачкай: у лічбах і фактах яна не магла зраўняцца з ніводнай краінай ў свеце. Скажам, у супастаўленні са Злучанымі Штатамі Амерыкі наша ахова здароўя была ў 10 разоў, а цяпер, напэўна, і ў сто разоў горш забяспечана... Адзіная надзея на тое, што наша медыцына будзе развівацца на тых прынцыпах, якія існуюць ва ўсім цывілізаваным свеце.

Але год пражыты асабіста мяне і нечым цешыць: нягледзячы на вялізныя цяжкасці, нашаму Вярхоўнаму Савету ў яго цяперашнім складзе ўдалося прыняць некалькі законаў, якія маюць радыкальнае значэнне. Гэта і закон, накіраваны на забяспячэнне суверэнітэту нашай Беларусі, і законы, якія маюць палепшыць жыццё малазабяспечаных людзей, людзей, якія пацярпелі ад чарнобыльскай катастрофы; нам удалося, нарэшце, дабіцца згоды і прыняць рашэнні аб новых відах уласнасці, што будзе спрыяць прыватызацыі.

Будучы, 1992 год, з аднаго боку, я сустракаю з неспакойным сэрцам, таму што бачу наперадзе шмат цяжкасцей і перашкод, з другога боку, я аптымістычна ўглядаюся ў будучыню, спадзяюся на лепшае. Мяне не пакідае надзея, што ў новым годзе мы вырашым многія балючыя і складаныя праблемы. Зарукай таму — наша свабода. Нас не душыць больш ідэалагічны хамут, мы ўступаем у Садружнасць Незалежных Дзяржаў як краіна-заснавальніца і будзем мець свой пачэсны пасад між народамі.

**Вацлаў МАЦКЕВІЧ.**



# КРЫШТАЛЬ ДЛЯ МУЗЕЯ?

**— Куды знікае прадукцыя нашага прадпрыемства! Гэтае пытанне часта задаюць работнікі Барысаўскага крыштальнага завода. Працуюць яны ў гэтым годзе зусім не горш, чым у ранейшыя часы, калі не толькі ў музеі, але і на прылаўках магазінаў былі ў шырокім асартыменце прадстаўлены вырабы прадпрыемства. Адказ на гэтае пытанне і просты: туды, дзе зніклі тэлевізары, веласіпеды, халадзільнікі, швейныя машыны, многае, многае іншае, і складаны: скупляецца гандлёвымі дзялкамі, спекулянтамі. Толькі з чыёй лёгкай рукі!**

**У гэтым годзе барысаўчане стварылі яшчэ дваццаць пяць арыгінальных навінак з крышталю. 880 тысяч вырабаў выпусцілі дадаткова да планавага задання дзевяці месяцаў. Іх прадукцыю добра ведаюць і ахвотна купляюць у ЗША, Англіі, Аўстрыі, Швецыі і іншых краінах. Праўда, экспартныя пастаўкі складаюць усяго дзесяць працэнтаў ад агульнага аб'ёму. Амаль палавіна цудоўных ваз, графінаў, фужэраў застаецца ў рэспубліцы. Але дзе! Ці знойдзецца дэтэктыў, якому па сіле раскрыць гэтую тайну!**

**НА ЗДЫМКАХ: майстар Зоя РЭУТ размалёўвае вырабы вадкім золатам; навінкі крыштальнага завода.**

**Фота В. АЛЯШКЕВІЧА.**






225

Прыехаў яе брат-інжынер і зазначыў мне, што я павінен выбрацца падабру-паздарову, адкуль прыйшоў, інакш ён падасьць мяне ў суд за шантаж. Ну што ж, сабраў свае інструмэнты ды вось і еду. На тое мы эмігранты, каб раз'язджаць". Тамашэвіч засьмяяўся. Тугоўскі ня мог схаваць свайго задавальненьня й праз усьмешку казаў:

— Так і трэба такім здраднікам...

— Так што ты зараз ня маеш канкурэнта, й твая Маргарыта можа табе належаць цалкам, — засьмяяўся Тамашэвіч.

— Я спаліў усё, чаму пакланяўся, — зазначыў Тугоўскі.

— А ўсё ж такі... Чаго не бывае. А вось яшчэ навіна... Між іншым, твая Маргарыта стала камсамолкай й запісалася ў марксысцкі гурток.

— Вярхоўская? — зьдзівіўся Тугоўскі. — Яна, дачка папа?

— А ўжэ ж, — засьмяяўся Тамашэвіч, — дачка папа — і камсамолка.

І ён, сьмеючыся, пакінуў Тугоўскага і пайшоў купацца. Тугоўскі глядзеў, як ён плыў па Влтаве, быццам рыба, і думаў аб кінутай ім загадцы: дачка папа й камсамолка. Яна заставалася для яго маўклівым сфінксам, і ніякія, напэўна, сілы не маглі прымусіць яе раскрыць свае тайны. Ён устаў і, не чакаючы, пакуль Тамашэвіч вылезе з вады, пайшоў у самы цэнтр паўвострава, дзе гучаў патэфон і стаялі столікі з настаўленымі бутэлькамі. Хадзіць у вопратцы па пляжу было нязручна: ужо не адна жанчына касілася на яго, думаючы, што ён прыйшоў падглядзець за імі. Ён сеў за столік й папрасіў сабе бутэльку піва. У той самы час, як ён пачаў аглядаць навокал столікі, яго пагляды спаткаліся з пільнымі паглядамі знаёмай жанчы-

226

ны: за суседнім сталом сядзела ў купальным касьцюме Вярхоўская. Яна была як русалка, і яе чырвоная шапачка вельмі йшла да ружовага і поўнага твару. Мокры касьцюм шчыльна аблягаў яе стройную фігуру і выдзяляў высокі бюст; ад усяго вобразу нясло маладым шалам і моцным здароўем.

Тугоўскі ад нечаканасьці пачырванеў і зьмяшаўся. Ён нават не адразу павітаўся з ей. У яго не было ніякага жаданьня пераходзіць да яе за столік і пацешыць яе сваей размовай. Але што было рабіць? Ён падыйшоў да яе.

— Вось так сустрэча, — прамовіла яна сьмеючыся, — а я даўно тут сачу за вамі. Я думала, вы не захочаце падыйсьці...

— Што вы... Чаму-бы я не захацеў?

— Хто ведае, можа быць вы яшчэ на мяне злуяцеся? — Яна засьмяялася. — Калі ласка, — ветліва зазначыла яна.

Ён перанёс сваё піва й пачаставаў яе.

— Дазвольце наліць вам за нашу сустрэчу...

— Так, за вашы посьпехі, за адраджэньне грамадзяніна Тугоўскага! — падняла яна шклянку.

Яны выпілі піва, задаволеныя і ўзбуджаныя ўзаемнымі паглядамі. Тугоўскі стараўся не глядзець на яе. Яму было крыху сорамна бачыць яе ў такім выглядзе, але як на злосьць вочы яго мімаволі ўпіраліся ў яе прыгожы і высокі бюст. Ён нікуды іх ня мог схаваць.

Яна сама прыкмячала гэту яго сарамлівасьць, што прымушала яе чуць сябе няпэўнай.

— Пачакайце, — прамовіла яна нарэшце, — за намі пільнуюць. Крыху нязручна. Адну хвіліну — я апрануся.

Яна вярнулася ў капелюшу, у прыгожым летнім

227

убраньні, і яны пайшлі ў глыб паўвострава, удаль ад людзей па высокай і густой траве. Яна йшла блізка каля яго, і ён чуў яе пах, узбуджаючый яго таксама, як тады, калі ён першы раз пакахаўся з ей. Яна зьмяніла цяпер адносіны да яго, і па ўсяму ён бачыў, што яна гатова была апёрціся аб яго руку й йсьці блізка каля яго ўсю дарогу. Якая насьмешка лёсу. Цяпер ён пачуў узаемнасьць жанчыны, каторую калісьці кахаў, цяпер, калі ў яго зьявіўся сыфіліс у другой стадыі. Яна йшла як ахвяра, ня ведаючы, каля якой жахлівай небяспекі яна йшла, на каго хацела апёрціся, да каго датыкнуцца сваімі гарачымі вуснамі. Яму стала шкода яе. Ён быў-бы праступнікам, яго можн было-б па закону пасадзіць у турму, каб зараз даткнуўся да яе й перадаў ей жахлівую пошасьц

Але яна ўзбуджала яго. Яна сама, быццам назло, вяла яго праз паўвостраў, далей і далей ад людзей — у поле, апутываючы сьвядомасьць сеткай граха. Яны выйшлі ў поле й селі на траву. Стала цямнець. Ён узяў яе мяккую руку, каб па гадаць, як раптам, быццам непрыкметна, яго ру сьлізнулася па ўсей фігуры. Яму паказалася, ш гэта будзе груба і яна за гэта можа непрыемна адудзячыць яму, але яна не зварушылася. Ён схапіў яе стан і, як непрытомны, прыціснуў свой твар да яе пахучых валос.

— Што вы робіце? — шаптала яна, але не зварухнулася ні адным мускулам, яе рука пакорна ляжала ў яго руцэ, толькі яе рот сох, і гарэлі вочы.

"Што запраўды я раблю! Я праступнік, я арaштант, я заражу яе сыфілісам", — стукала калючымі малаткамі ў мазгу, але локаны валос прыемна шчакаталі вуха, і ён не памятаючы сябе схапіў яе галаву і ўпіўся ў яе вусны гарачым даўгім

228

пацалункам. "Няхай, — стукала ў віскі, — заражу яе моднай хваробай. Усё роўна яна камсамолка... Гэта ей нагарода за яе буржуазнае паходжаньне, за яе здраду з патрыцыем Загорскім". І ён доўга цалаваў яе твар, быццам жадаў ува ўсе мейсцы пацалункаў уліць кроплі жахлівага яду.

## VI

Тугоўскі не паказываўся ў Студэнцкім доме. Яму сорамна было паказацца на чужыя вочы, яго грызла безупынна сумленьне, што ён заразіў Вярхоўскую. Думка аб тым, што калі-небудзь Вярхоўская пабача на сваім целе жахлівую прымету хвар не давала яму ні днём ні ўночы спакою. Шт нарабіў? І чаму ўласьне лёс, ці выпадак, ці пракляты Сатурн зрабіў так, што яна ўзбудзіла ў ім пачуцьцё ў той момант, калі ён быў хворы, што яна пачула да яго нейкі наплыў сымпатыі і каханьне ў той момант, калі ён быў ахоплены новым росквітам хваробы. Ці не была зноў тут чыясьці злая й праступная насьмешка? Хаця якая насьме Такая самая насьмешка, як тая сіла прыроды, гоне чамусьці матыля на вагонь і прымушае яго апаліць крылы? Разумнага ў гэтым няма нічога, а між тым гэта імкненьне матыля, і яго бяссільная спыніць якая-небудзь лёгіка. Так сталася! Можа быць, ня чуў-бы ў сабе ён гэтай жахлівай хваробы, ня меў-бы ён крыху злосьці на жанчын наогул, віноўніц мужчынскіх мук і хвароб, і не насі ён у сабе помсты да яе, Вярхоўскай, як адзінай віноўніцы таго, што ён адважыўся йсьці да начной дзяўчыны, — ён ня быў-бы такім сьмелым, грубым, і магчыма ўсё пайшло-б інакш. Але так сталася: чыясьці рука і ўплывы нейкага Сатурна зьвілі

229

іх шляхі разам і прывялі іх да трагічнай разьвязкі. Цяпер, здавалася, усё было скончана. Калі-б выявілася, што Вярхоўская запраўды захварэла, яму ў Празе заставацца больш ня можна было-б. Ня толькі таму, што пачаліся-б жахлівыя сцэны, сьлёзы, лаянка, нараканьні, крыкі загубленай маладой жаночай душы, але й таму, што самы закон прывёў-бы яго на турэмную лаву. Ён павінен быў-бы ехаць як мага хутчэй. Яго стыпэндыя й асьвета была-б закінута ўжо аканчальна й беспаваротна.

Але куды ён мог-бы паехаць з сьвядомасьцей таго, што ў Празе ён зрабіў вельмі брудную і ганебную авантурную справу, куды ён мог-бы паехаць з бацыламі разьвіваючайся безупынна па ўсяму целу хваробы? Дзе, на якой частцы зямной кулі ён мог-бы пачаць новае жыцьцё? Тады ўжо напэўна яму заставалася-б толькі скончыць сваё жыцьцё.

З такімі думамі ён хадзіў па ваколіцах Прагі, па садзе інтэрнату й нідзе ня мог знайсьці спакою. Адзін раз за Прагай, на мурах старой крэпасьці Вышаграду, спаткаў ён беларускага студэнта Каруся.

— Ты як папаў сюды? — спытаў той сваім моцным голасам, як ерыхонская труба.

Пачалася размова. Мімаволі Тугоўскі, чые думкі былі заняты толькі сваей хваробай і тым жахлівым паложаньнем, з якога, напэўна, дрэнная дарога, прызнаўся, што яму прыдзецца страляцца.

— Страляцца? — зьдзівіўся Карусь, — і ў цябе запраўды гэтая знакамітая хвароба ў другой стадыі?

— Так. Я думаю — сапраўды, хоць трэба будзе пачакаць яшчэ некалькі дзён да аканчальнага

230

высьвятленьня справы...

— Гм... Слухай... Вось што... Чым так страляцца, дык лепш загінуць ува ймя якой-небудзь ідэі. Усё роўна гінуць, дык лепш гінуць так, каб цябе хоць успомнілі будучыя пакаленьні. Слухай, дружа. — Ён паклаў сваю моцную й вялікую руку на плечы Тугоўскага й пільна пачаў глядзець у вочы. — У аднэй з суседніх з Чэхаславакіяй дзяржаў у мяне ёсьць пэўныя людзі — загартаваныя ў барацьбе паўстанцы. Табе прыдзецца нелегальна перайсьці граніцу й наладзіць з імі сувязь й сетку паўстанчаскіх арганізацый... Калі-б мы маглі аднавіць ува ўсёй дзяржаве тэрор з дапамогай украінскіх арганізацый, — мы маглі-б сказаць, што зрабілі вялікую беларускую справу. Кроў чалавека мы пералілі-б на алтар Бацькаўшчыны. А людская кроў ніколі ня гіне дарэмна й на гістарычных вагах важыць вельмі шмат. Дык чым губляць сваё маладое жыцьцё проста так бяссэнсава, лепш загубіць яго з карысьцей для грамадзянства, ува ймя гісторыі. Праўду я кажу ці не?

Тугоўскі, каторы за ўсё жыцьцё й мухі не забіў, слухаў разважаньні Каруся аб тэрору зусім сур'ёзна, не бачачы ў іх нічога фантастычнага. Яму здавалася, што ўсё ж ткі ў словах Каруся ёсьць лёгіка: замест таго, каб прыставіць дула рэвальвера да свайго чала, лепш прыставіць яго да чала ворага й ужо потым скончыць з сабой. Прыдаць свайму жыцьцю апошнюю й прыгожую вартасьць.

— Праўду ты кажаш, — махнуў галавой

231

Тугоўскі.

— Дай руку, — радасна прамовіў Карусь і пацiснуў яго руку сваім зялезным уціскам...

— Слухай, дружа ад гэтага часу я цябе буду лічыць сваім і запішу ў сваю вайсковую арганізацыю... Толькі дысцыпліна: каб аб гэтым нікому ні слова, нават сваім бліжэйшым сябрам. Ні адзін беларус не павінен ведаць аб нашай арганізацыі, асабліва з гэтага інтэрнату. Згодзен?

Тугоўскі задумаўся. Пакуль справа не выходзіла за рамкі агульных слоў аб гісторыі, аб беларускіх ахвярах, усё было добра: ён разумеў, што так трэба было, што гэта было нават прыгожа. Але калі яму трэба было практычна ўвайсьці ў нейкую тайную арганізацыю, ён пачуў нешта непрыемнае, арганічна яму няздатнае, быццам яго прымушалі спусьціцца ў цёмны склеп, напоўнены трупамі.

— Не, пачакай, братка, — прамовіў Тугоўскі ў раздум'і. — Я павінен пачакаць яшчэ некалькі дзён, пакуль атрымаю ад доктара аканчальную вестку аб сваёй хваробе. Толькі тады я магу ўступіць у тваю арганізацыю, бо так ісьці на верную сьмерць я ўсё ж ткі ня згодзен. Гэта вельмі пахне авантурай. — І каб зьмякчыць сваё апошняе слова, ён усьміхнуўся і дадаў: — Я ж страляць яшчэ ня ўмею.

— Ня ўмееш? — засьмяяўся Карусь так, што па ўсяму полю панясьліся раскаты сьмеху. — А як жа ты думаў сябе застраліць? Ну, гэта нічога. Будзеш прыходзіць да нас, мы цябе страляць навучым. — І праз хвіліну сур'ёзна зазначыў: — Слухай, дружа, я ўсё ж ткі буду цябе чакаць. Я сяньня выдаў табе тайну аб існаваньні нашай арганізацыі, а гэта, сам ведаеш, да чаго-небудзь цябе абавязывае. Пакуль што я ад цябе зараз не

232

адстану. Дык дам тры дні на разважаньне. Ну, пакуль што бывай, даражэнькі. — Ён пацiснуў руку Тугоўскага так, што ў таго хруснулі ў пальцах суставы.

Тугоўскі застаўся адзін на мурах старой крэпасьці, з якой людзі ўнізу відналіся маленькімі мурашкамі. Ён глядзеў уніз, і яму ўсё жыцьцё стала цяпер здавацца толькі маленькім мізэрным ломцікам. Быццам ён вельмі вырас над усімі й глядзеў на ўсё з вышыні птушынага палёту. Карусь напоўніў яго такім нечаканым ідэалам, што ўвесь яго сьветапогляд, усё яго "я" раптам перавярнулася дагары нагамі. Ён прыдаў нечаканы зьмест яго жыцьцю, ён паклаў на Тугоўскага нават місыю, вялікую гістарычную місыю палітычнага змагара.

Што заставалася яму рабіць?

Праз некалькі дзён ён пачне гніць, і кавалкі яго цела будуць адвальвацца, знача, ён павінен будзе прыняць якія-небудзь рашучыя меры. Гінуць, дык ужо запраўды лепш так, як зазначыў Карусь. Вялікія палітычныя змагары сучаснай рэвалюцыі былі такімі сьмелымі таму, што былі хворыя гэтай самай моднай хваробай.

Але каб дапусьціць, што ён зусім здаровы, ці ня мог-бы, правядловей, ці не павінен быў-бы ён і тады стаць на той шлях, на які прапанаваў яму стаць Карусь?

Што такое быў ён, Пётра Тугоўскі, у велізарнай чашы жыцьця? Адзінокая пясчынка, ляжачая без усякага руху ў агульнай масе пяску. Адзінокі чалавек, не знайшоўшы свайго ўласнага шчасьця. Разьбітая маладосьць, прадвяшчаўшая жахлівую, сумную і студзёную старасьць. Студзёная вясна, у каторай замёрзлі кветкі, пажоўклі лісты, як у восені, і ніколі не ўстануць да жыцьця.

---

**Працяг.**
**Пачатак у №№ 23 — 50.**

